 

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 13 (1559) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 30 САКАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл




Урачыстае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ адкрывае старшыня ГП д-р Аляксандр Баршчэўскі.

# УРАЧЫСТЫ ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Няўмольна плыве час, мінаюць гады, і толькі вось пры круглых гадавінах агляняешся на пройдзены шлях. 26 лютага мінула 30 год БГКТ і „Ніве", першы нумар якой пайшоў у народ 4 сакавіка 1956 года.

Памятаю я тыя радасныя, поўныя энтузіязму дні, памятаю добра I арганізацыйны з'езд БГКТ і з'ездаўскі нумар „Нівы", які падрыхтавала дэлегатам толькі што ўтвораная наша рэдакцыя.

Успаміналі тыя часы і сабраныя на ўрачыстым пленуме БГКТ, які адбываўся ў будынку прафсаюзаў 2 сакавіка 1986 г. Сустрэліся тут БГКТоўцы з былых паветаў: Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага, Сямяціцкага, Дуброўскага і Сакольскага, а таксама з Варшавы і Гданьска. Панаваў урачысты, прыўзняты настрой. У многіх на грудзях красаваліся спецыяльныя юбілейныя значкі, якія падрыхтаваў Гайнаўскі дом культуры.

На святкаванне дня нараджэння БГКТ і „Нівы" было запрошана шмат людзей, якія спрыялі і надалей спрыяюць дзейнасці Беларускага таварыства. Прыбылі прадстаўнікі ўлад: старшы інспектар грамадска-юрыдычнага аддзела ЦК ПАРП — Войцех Клімэк, намеснік старшыні Ваяводскай рады нарадовай — Юзэф Эльясевіч, віцэ-ваявода — Ежы Слезак, сакратары: Ваяводскага камітэта ЗСЛ — Яўгеніюш Гасеўскі і Ваяводскага камітэта СД — Антоні Святліцкі, кіраўнік ідэалагічнага аддзела інфармацыі Ваяводскага камітэта ПАРП — Анатоль Вакулюк, сакратар ваяводскага калектыву паслоў у Сейм — Гертруда Орляч, намеснік старшыні Ваяводскай рады ПРОН — Веслаў Дамброўскі і іншыя.

А 11⁰⁰ гадзіне за сталамі прэзідыума ўрачыстага пленума, апрача членаў цяперашняга Прэзідыума ГП, знаходзіліся галоўны рэдактар „Нівы" — Георгі Валкавыцкі, які 30 год узначальвае наш тыднёвік, а таксама былыя старшыні ГП — Лідзія Бялецкая і Макар Дземяновіч.

Старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, адкрываючы ўрачыстасць, сказаў: „У 30 год у чалавека канчаецца маладосць і пачынаецца яго сталасць. Так і з нашай арганізацыяй, з той розніцай, што ў яе арганізм уліваюцца ўсё новыя і новыя жыццедайныя сілы, і ў многіх

(Працяг на стар. 6)



Дзяржаўныя ўзнагароды для працаўнікоў „Нівы".

## З УЗНАГАРОДАЙ!

**КРЫЖ КАМАНДОРСКІ ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ**

Міхась Хмялеўскі

**КРЫЖ КАВАЛЕРСКІ ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ**

Ада Чэчута

**СЯРЭБРАНЫ КРЫЖ ЗАСЛУГІ**

Яўгенія Палоцкая

**АДЗНАКА „ЗАСЛУЖАНЫ ДЛЯ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ"**

Залатая

Люба Беразавец
Люба Гаўрылюк
Юрка Гаўрылюк
Анатоль Мартыновіч
Аляксей Харкевіч

Сярэбраная

Марыя Аварчук
Міхась Беразавец
Аляксандр Бандарук
Валянціна Верамчук
Іван Ваўжэнюк
Лідзія Гайдук
Іван Жаваранак
Надзея Каліноўская
Аляксандр Краўчук
Мікалай Лапух
Андрэй Лукша
Валянціна Лукашук
Васіль Ляшчынскі
Вера Мацюка
Валянціна Міцэвіч
Іван Назарук
Мікалай Нікалаюк
Яўгенія Палоцкая
Аляксандр Раманюк
Марыя Сапяжынская
Яўген Сач
Ніна Сільвеструк
Уладзімір Суліма
Анастасія Цімашук
Ада Чэчута
Янка Шурбак
Анна Шыманская

**ЗАЛАТЫ ГАНАРОВЫ ЗНАК ТППР**

Яўген Андрасюк
Мікалай Байгуз
Тамара Баран
Антаніна Боўблей
Тамара Бурачэўская
Марыя Гегель
Раіса Дылько
Валянціна Жэшка
Галіна Кандрусік
Галена Кот
Ніна Купрашэвіч
Ніна Лапінская
Марыя Міруць
Вольга Мядзведзева
Яніна Налівайка
Юрка Налівайка
Надзея Парэмбская
Багдан Пура
Уладзімір Федарук
Пётр Ціканюк

**ЗНАК „ЗА ЗАСЛУГІ ДЛЯ РСВ „ПРЭСА-КНІЖКА-РУХ"**

Вера Валкавыцкая
Віктар Рудчык
Яніна Чэрнякевіч

**ЗАЛАТЫ ЗНАК і ГАНАРОВЫ ДЫПЛОМ ЗА ЗАСЛУГІ ДЛЯ ЖУРНАЛІСТЫКІ**

Георгі Валкавыцкі

**ЗАЛАТЫ ЗНАК І ГАНАРОВЫ ДЫПЛОМ ЗА ЗВЫШ 30-ГАДОВУЮ ЖУРНАЛІСЦКУЮ ПРАЦУ**

Міхась Хмялеўскі

**МЕДАЛЬ І ГАНАРОВЫ ДЫПЛОМ ЗА 25 ГОД ПРАЦЫ У ЖУРНАЛІСТЫЦЫ**

Вера Валкавыцкая
Віктар Рудчык

 

 




## НЕ ТРЭБА ТАІЦЦА

Як толькі пасля родаў перанеслі мяне ў палату нумар 5, я заўважыла, што яе „жыхаркі“ гавораць па-польску. У другіх залах таксама гавораць па-польску.

„Вось табе на! — падумала я. — Адны полькі ляжаць, ці як?“ Рашыла я спытаць спачатку ў сваёй зале, хто адкуль прыбыў сюды. Адна з Д., другая з П., а трэцяя з Б. „Ага, — думаю, — калі з П. — то беларуска. Значыць, няма чаго ламаць язык“. Загаварыла я з ёй па-беларуску і яна таксама адказала мне па-беларуску. Толькі доўга гаварыць мне з ёю не давялося, бо яна паехала дадому. З другімі было трошкі цяжэй. Не ведала я, дзе знаходзіцца Д. Упершыню пачула гэтую назву. Думала, што гэта нейкая выключна польская вёска. Дзяўчына з Б. сказала мне, што сама паходзіць з Т. Не мела я паняцця, дзе знаходзіцца Т. Думала, мо яна прыехала аднекуль з другога ваяводства. Так што пяць дзён я гаварыла з усімі толькі па-польску.

Пасля мне так гэта маскіроўка надакучыла, што я не вытрымала і пачала гаварыць па-беларуску. Ведаеце! Высветлілася, што ўсе мяне дасканала разумеюць, а некаторыя пачалі нават гаварыць па-беларуску. Толькі некаторыя адзываліся да мяне па-польску і нават дрэннага слова мне не сказалі, што я гавару па-беларуску. Мела я прыемнасць сустрэцца з полькай ад дзеда-прадзеда. Вельмі прыемная жанчына. Нават не прыкідвалася, што не разумее беларускай мовы. Адна полька і каталічка мае праваслаўнага мужа. Разумець нашую мову разумее, толькі чытаць па-беларуску не ўмее.

— Шлюб бралі мы ў касцёле, — сказала яна. — Аднак мой муж не хоча хадзіць ні ў касцёл, ні ў царкву. Я яго і не прымушаю. Ягоная справа. Мужчына — як мужчына. Самі ведаеце, да рэлігіі не горнецца. Толькі ў нас ніколі не было і быць не можа сваркі з-за рознага веравызнання.

Была таксама полька з Б. Сама прыехала сюды аж з захаду Польшчы. Тут жыве шэсць гадоў. Муж таксама праваслаўны.

— Шлюбу ні царкоўнага, ні касцельнага мы не маем. Толькі запісаліся і жывем. Мне не перашкаджае, што ён праваслаўны і яго ўся сям'я праваслаўная, а майму мужу мая іншасць перашкаджае. Як толькі вып'е, абзаве мяне ад розных і яшчэ на маю сям'ю розных рэчаў нагаворыць, — кажа Д. і ў беднай слёзы круцяцца ў вачах.

Усе астатнія жанчыны, а ёсць іх яшчэ восем, беларускі і праваслаўныя. Са мною гавораць выключна па-беларуску, але калі падыйдзе да нас полька, гавораць па-польску, што мяне вельмі смешыць. Чаго ж тут таіцца? Чаго ў канцы баяцца? То ж мы сядзім тут ад вякоў вечных. То ж нашы дзяды ды прадзеды былі беларусамі. Чаго, на канец, саромецца сваёй мовы? То ж гэта наш найдаражэйшы скарб. Гэта наша спадчына ад продкаў. Дык шануйма яе і не „хавайма“ па кутках. Толькі выносьма яе ўсюды. Беларусы таксама не гусі і сваю мову маюць. Нічым яна не горшая ад другіх моў. Яшчэ прыгажэйшая, бо наша і блізкая сэрцу кожнага беларуса.

**Аўрора**

Шчырыя спачуванні
**Галене Тапалянскай**
у сувязі са смерцю
**бацькі**
выказваюць Інспектар асветы і выхавання, ПОП ПАРП, Праўленне аддзела Саюза польскіх настаўнікаў у Нарве і супрацоўнікі.

g-1674-1




## ЛЯМПЫ ЗБІРАЕ АЎТАМАТ

Самую працаёмкую і карпатлівую аперацыю па ўкладцы мініяцюрных спіралей асвятляльных лямпаў даручылі аўтаматам наватары Брэсцкага электралямпавага завода. На васьмі зборачных лініях яны вызвалілі ад цяжкай ручной працы 16 работніц. Навінку, якая зацікавіла і іншыя аднатыпныя прадпрыемствы, сканструявала творчая брыгада інжынераў завода.

Больш за 350 рацыяналізатараў і вынаходнікаў прадпрыемства аб'яднаны ў творчыя брыгады. Галоўная іх задача — механізацыя і аўтаматызацыя асноўных і дапаможных аперацый, мадэрнізацыя абсталявання. Ужо распрацаваны шэраг арыгінальных агрэгатаў і прыстасаванняў, якія дазволілі ліквідаваць многія працаёмкія аперацыі на вытворчасці асвятляльных, камутатарных і аўтамабільных лямпаў.

## МІКРАЗАКАЗНІКІ КАПЫЛЬШЧЫНЫ

Багатая і разнастайная флора і фауна Капыльшчыны. У яе лясах знайшлі сабе прытулак ласі, дзікі, казулі, цецерукі і іншыя каштоўныя звяры і птушкі. А ў поймах рэк і вадасховішчаў, паблізу населеных пунктаў зрэдку сустракаюцца каштан васьмітычынкавы, клён іляжэплатанавы, піхта каліфарнійская і іншыя дрэвы і расліны, што ўзяты пад ахову дзяржавы.

На падставе матэрыялаў Інстытутаў эксперыментальнай батанікі і заалогіі АН БССР аб месцах знаходжання рэдкіх відаў раслін і дзікіх жывёлін, занесеных у Чырвоную кнігу, выканком Капыльскага раённага Савета народных дэпутатаў вырашыў дадаткова стварыць батанічныя і заалагічныя мікразаказнікі мясцовага значэння. Да ліку першых адносіцца радовішча пралескі высакароднай у лясным масіве Бабаўнянскага лясніцтва, першацвета веснавога ў пасадках на ўзбярэжжах Капыльскага вадасховішча, купальніцы еўрапейскай у пойме ручая ля вёскі Стары Капыль.

Заалагічнымі заказнікамі аб'яўлены масівы лясных кварталаў Бабаўнянскага, Колаўскага, Арлікоўскага лясніцтваў, дзе водзяцца барсукі, мядзянкі і гняздзяцца чорныя буслы. У сямі кварталах Арлікоўскага лясніцтва налічваецца 7 гняздоўяў гэтых рэдкіх птушак.

## СУПРАЦЬ ВЕСНАВОЙ ПАВОДКІ

Весці барацьбу з веснавой паводкай на Прыпяці дапамогуць сажалкі — рэгулятары, якія ствараюцца ў басейне ракі.

У яе вярхоўях каля галоўнага прытоку Ясельды меліяратары пабудавалі першую чаргу буйнейшага на Палессі воднагаспадарчага комплексу, рукатворныя азёры якога займаюць каля паўтары тысячы гектараў. Яны прымуць бурную веснавую паводку, паменшаць плошчы затаплення лугоў. А ў сухое лета будуць выкарыстоўвацца як крыніцы арашальных сістэм і гадавальнікі для развядзення рыбы.

## ПРЫЙШЛІ НА ФЕРМУ ФІЗІКІ

Як удасканаліць працэс даення кароў? Адказ на гэта пытанне жывёлаводаў узяліся шукаць... фізікі. Хоць і далёкія, здавалася б, іх інтарэсы ад патрэб жывёлагадоўлі, але менавіта яны прапанавалі прынцыпова новы спосаб машыннага даення ў аўтаматычным рэжыме. Старшы навуковы супрацоўнік Гродзенскага універсітэта Л. Тараканаў стварыў прыстасаванне, якое перавышае лепшыя сусветныя ўзоры і ў паўтара раза павышае як інтэнсіўнасць самога даення, так і прадукцыйнасць працы аператараў. Першая доследна-прамысловая партыя „Нёманаў“, так назвалі навінку, ужо падрыхтавана для дзяржаўных выпрабаванняў у гаспадарках Гродзенскай вобласці.

## СПОРТ

■ У Ленінградзе прайшлі міжнародныя спаборніцтвы фехтавальшчыкаў „Ленінградская рапіра“. У іх удзельнічала 128 спартсменаў з усіх „фехтавальных“ краін свету.

Першае месца ў асабістых спаборніцтвах заваяваў мінчанін Аляксандр Раманькоў.

■ Бадай упершыню беларускія скакуны ў ваду засталіся без вышэйшых узнагарод на чэмпіянаце СССР. Толькі мінчане Алена Стасюлевіч і Уладзімір Алейнік у скачках з вышкі занялі другія месцы.




## У ПОШУКАХ „ЦУДА-РАШЭННЯ“

„Цуда-дом“, які не мае патрэбы ў знешніх крыніцах электрычнасці і паліва, абяцаюць у самым бліжэйшым будучым прапанаваць спажыўцам Швецыі. Гэта адзін з праектаў, распрацаваных зараз у краіне для вырашэння энергетычных праблем. Вакол іх адбыўся ў апошні час выбух страсцей. Прычынай стаў толькі што ўведзены ў эксплуатацыю трэці рэактар атамнай электрастанцыі ў Оскарсхамні, ля Балтыйскага ўзбярэжжа.

Справа ў тым, што на агульнанацыянальным рэферэндуме ў 1980 годзе пасля гарачых дэбатаў шведскай атамнай энергетыцы быў вынесены „смяротны прыгавор“. Яго тлумачылі тады патрабаваннямі „бяспекі“ і „ахову навакольнага асяроддзя“.

„Оскарсхамн-3“ стаў „лебядзінай песняй“ у праграме будаўніцтва АЭС у Швецыі. З таго часу, згодна з рашэннем улад, на парадку дня стаіць пытанне аб яе паступовым згортванні і поўнай ліквідацыі к 2010 году. Усе ўжо існуючыя рэактары дэманціруюць. Але чым жа замяніць АЭС, якія даюць цяпер амаль палавіну спажываемай у краіне энергіі?

**Паводле заўвагі аднаго дацкага журналіста, сказаўшы „не“ атамным электрастанцыям, практычныя шведы са здзіўленнем выявілі ў сабе схільнасць да парадаксальных рашэнняў. І сапраўды, на тэрыторыі Швецыі сканцэнтравана ад 60 да 75 працэнтаў усіх уранавых радовішчаў Заходняй Еўропы. Іх распрацоўка зняла б усе праблемы з крыніцамі энергіі для шведскай эканомікі на бліжэйшыя сотні гадоў.**

З другога боку, у Швецыі няма прамысловых запасаў нафты, газу і вугалю. Па завозу нафты і нафтапрадуктаў на душу насельніцтва яна займае адно з першых месц у свеце. Някепска ў краіне абстаіць справа з гідраэнергетыкай. Але супраць праектаў яе развіцця, якія маюць на ўвазе будаўніцтва плацін на чатырох буйнейшых рэках, актыўна выступаюць „экалагісты“, да якіх шведская грамадская думка прывыкла прыслухоўвацца. Устаноўкі, якія выкарыстоўваюць сілу ветру, магчыма, і прыдатныя для невялікіх энергаспажыўцоў, але наўрад ці забяспечаць патрэбы прамысловасці і транспарту.

У выніку амаль непазбежнай з'яўляецца перспектыва павелічэння імпарту традыцыйных энерганосьбітаў. Каб зменшыць затраты на нафту, прапануюць зрабіць стаўку на вугаль і ў дадатак да яго на айчынныя запасы торфу.

Аднак ужо цяпер прадукты спальвання паліва, што выкідваюцца ў атмасферу, сталі прычынай катастрафічнага забруджвання амаль 18 тысяч вадаёмаў Швецыі, а таксама гібелі многіх хваёвых лясоў. Вугальна-тарфяная энергетыка, вядома ж, зробіць мясцовую прыроду яшчэ больш уразлівай.

**Пасля пуску „Оскарсхамн-3“ міністра энергетыкі пані Б. Даль папрасілі пракаменціраваць паведамленні аб тым, што цяпер амаль палавіна насельніцтва краіны не лічыць рэальным адмовіцца ад атамнай энергетыкі. Міністр заявіла, што нават калі грамадскасць і выкажацца за выкарыстанне атамнай энергіі ў мірных мэтах, поўнасцю змяніўшы свае ранейшыя адносіны да яе, рашэнне аб ліквідацыі АЭС усё роўна будзе ажыццёўлена. Падобна на тое, што схільнасці да парадаксальнага мыслення не пазбаўлены і шведскія палітыкі.**

**Д. В.**

 

 



Уладзімір Наўмюк. Чулае сэрца.
Фота М. Гайдука.

# Нявыкананыя пастулаты

Пескі — вёска ў гміне Дубічы Царкоўныя. Перад выбарамі ў рады нарадовыя і Сейм жыхары гэтай вёскі ставілі пастулаты. Менавіта вёска Пескі прасіла, каб Раён публічных дарог у Бельску паставіў дарожны знак на скрыжаванні вуліцы вёскі з дарогай Гайнаўка-Войнаўка, які б змяншаў тут хуткасць да 40 км. у гадзіну. Гэтае скрыжаванне — небяспечнае месца, бо яно невідочнае. Могуць выскачыць дзеці ці вылезці каровы, вядома — як на вёсцы. А машыны едуць, вязуць дрэва з лесу, яны цяжкія і цяжка іх адразу затармазіць. Калісь з адным дзіцём амаль не дайшло тут ужо да такой трагедыі.

Вясной і летам у гэтым месцы пры хуткай яздзе ўзнімаюцца хмары пяску і пылу, так што не высушыш на дворы ні бялізны, ні збожжа, бо адразу ўсё робіцца чорнае. Пяску і пылу поўна ў калодзежах — забруджваецца вада, а ўсе гэтую ваду п'юць.

Але на скаргу вёскі і просьбу яе жыхароў паставіць на скрыжаванні спомнены знак — дырэктар прыслаў солтысу вёскі адказ ад 30.10.1985 г., што „nie zachodzi konieczność". Што ж, яму добра, ён п'е ваду з глыбіннага калодзежа і нашых патрэб не разумее.

**Пушча**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Або грай, або скрыпку аддай.
Ад спеху нарабіў смеху.
Без ахвоты няма работы.
Гаспадарка — клапатарка.

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### ШКОЛА ВЯРНУЛА ДАЧКУ

Аднойчы такую размову я пачуў: школа вярнула мне дачку. Менавіта, беларуская мова. Успамін гэта маці адной. Мае яна двое дзяцей. Вельмі іх любіць. Для іх толькі жыве. Бо скажыце, якая маці сваіх дзяцей не кахае?

Сама гадамі яшчэ не старая. Непадалёк Гайнаўкі іх пасёлак. Прыгожае месца. Мужык — леснікам. Сваёй працы ён вельмі адданы. Дзеці ў горад, у школу пайшлі. Гарадскія сябры павяліся. Роднай мовы не пачуеш тут нідзе. У школе, у тым часе, беларускай мовы не вучылі. Таму і ў хаце штораз больш польскай мовы было чуваць, чым сваёй, беларускай. Бацьку, як бацьку, усё роўна, якой моваю дзеці гавораць. Неаднойчы жонцы казаў: можа і лепш, што на польскай гаворцы гавораць. Далей пойдуць, то як знойдуць. Смяяцца над імі не будуць. Гэта моднае стала цяпер, — дадаваў на парозе яшчэ. А сам — у лес.

Студэнтам сын стаў. У Варшаву вучыцца паехаў. Вучыцца ён добра. Рады яму. Мучыць адно: супольнага слова з ім няма. З дачкой выйшла інакш. Пайшла яна ў беларускі ліцэй. У Гайнаўцы вучыцца. Пэўна, лёс так хацеў! Вучыцца добра. Хаця пачатак цяжкі ёй быў.

— Ведаеце што? — з усмешкай гаворыць яна. — Мне школа вярнула дзіця. І ўсё, усё вярнулася назад. І супольная мова знайшлася. І справы між намі адны. Пачытаем супольна. Абгаворым, што трэба. Паслухаем песень сваіх. Аж паплачу не раз. Ад шчасця, вядома, і слёзы не ганьба для нас. Далей думаю так: маю двое дзяцей, родных, а розніца ёсць. Хаця кажуць: парэзаны палец рукі, кожны таксама баліць. Тут бачу інакш. І сына кахаю, і дачку. Толькі яна да сэрца бліжэй. Не таму, што яго ў хаце няма. А таму, што мова мая, бацькоў і дзядоў, да яе перайшла. Яна нас яднае. Кахаць дапамагае. У справах не розніць. Гэта ўсё дзякуючы школе. Усім уголас кажу: не цурайцеся мовы сваёй! Такая прыгожая яна, як ніводная ў свеце! А песні на роднай мове якія!? Да сэрца даходзяць, выціскаючы смех і слязу. У ёй грукат грому чуваць і шум вадаспада, ціхага ветру павеў, між калоссяў духмянага хлеба. Нашым дзецям сягоння беларускай мове вучыцца неадкладна ўсім трэба.

Запісаў **Г. Мароз**

## ТАК БЫВАЕ...

### НЯВЫПІТАЯ КАВА

Кожнаму чалавеку, які церпіць на бяссонніцу, прыходзяць у галаву чорныя думкі.

Колькі разоў я сустракаю Яна Чыквіна, ды і не толькі тады бо яшчэ часцей, — успамінаю ягонага брата Колю. Калісьці, недзе ў сямідзесятых гадах, калі Коля яшчэ жыў і працаваў у Дубінах, я, будучы на Гайнаўшчыне, часам яго наведваў, каб пагутарыць з гэтым сімпатычным і разумным чалавекам. Апошні раз я яго наведаў тады, калі Коля будаваў сабе новую хату. Ён вельмі цешыўся гэтай пабудовай, ганарыўся ёю і звязваў сваё шчасце, сваю будучыню з гэтай хатай. А была яна ўжо пад дахам, як у народзе гавораць, але яшчэ не была закончана. Коля яе рыхтаваў па меры сваіх магчымасцей, а жыў у старой, бацькоўскай.

Дык вось, завёў мяне на будову, каб паказаць і пахваліцца. Хадзілі мы з памяшкання ў памяшканне. Коля тлумачыў мне свае канцэпцыі адносна канчатковага прыспасаблення гэтай хаты да сямейнага жыцця, дзе меў астацца назаўжды, а пасля сын меў з ёю зрабіць тое, што хацеў бы, але Коля планаваў каб і сын астаўся на бацькаўшчыне. Паказаў мне склеп і дзе, што ў ім будзе, і якім спосабам будзе гадаваць карову, каб было ёй цёпла і ім зручна ў зімовы перыяд.

Пабудова новай хаты была вельмі талкова прадумана, і я з задавальненнем слухаў Колевы планы. Калі мы вярнуліся дахаты, Коля завёў мяне ў адзін пакой і сказаў: „Калі ўжо прыедзеш наступным разам, то каву будзем піць вось у гэтым пакойчыку, а калі пайду на пенсію то будзеш прыязджаць часцей..."

Я таксама марыў, што калісь прыеду летам і ў гэтым бяссонечным пакоі, дзе халадок, вып'ю з імі каву.

Не дачакаўся. Прыйшлі злыя людзі і хату спалілі. Падкраліся ноччу, бы галодныя ваўкі, падлажылі агонь, а гэтага ж не зробяць аніякія зверы. Спаліць, забіць можна кожнага, але ці ж чалавек разумны гэта робіць?

(Працяг на стар. 5)




# Беларуская песня ў Бельску Падляшскім

Сапраўдным беларускім святам быў дзень 23 лютага г.г. у Бельску Падляшскім, калі адбываўся раённы агляд конкурсу „Беларуская песня-86". Выступіла ў ім 60 спевакоў.

Вітаючы прадстаўнікоў гарадскіх улад і ўсіх прысутных, член Прэзідыума ГП БГКТ, дырэктар Бельскага дома культуры мгр Сяргей Лукашук сказаў, што ў гэтым годзе агляд мае асаблівы характар, праводзіцца ён у юбілейны час 30-годдзя БГКТ і тыднёвіка „Ніва".

І сапраўды. У прасторным, эстэтычна ўдэкараваным зале Бельскага дома культуры панаваў святочны настрой. Спаборнічалі ў беларускай песні салісты, дуэты і вакальныя калектывы. Выканаўчы ўзровень большасці песень быў вельмі высокі. Безумоўная тут заслуга і саміх выканаўцаў, і кіраўнікоў калектываў.

Варта звярнуць увагу на факт, што арганізатары сёлетняга агляду шырока распрапагандавалі конкурс беларускай песні ў сваім асяроддзі. Утрымоўваюць яны кантакт з вучнямі і абсальвентамі Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя, а таксама з прамысловымі прадпрыемствамі, напрыклад, ад бельскай „Эльвы" выступала Ірына Краўчук.

Жўры прызнала наступныя месцы:

У катэгорыі сучаснай песні, сярод салістаў І месца — Альжбеце Маслоўскай з Бельскага беларускага ліцэя, ІІ месца — Ірыне Краўчук з „Эльвы"; сярод дуэтаў: І месца — Альжбеце Маслоўскай і Яланце Дзмітрук з Бельскага беларускага ліцэя; сярод калектываў: І месца — трыо з Бельскага дома культуры; ІІ месца — жаночаму калектыву з „Васілёчкаў".

У катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні сярод салістаў І месца заняла Валянціна Мароз з „Васілёчкаў"; сярод вакальных калектываў камісія два першыя месцы прызнала мужчынскаму калектыву з „Васілёчкаў" і „Дзявочым ноткам" з беларускага ліцэя, трэцяе месца — калектыву „Згодныя макі" з Райска.

Большасць пераможцаў камісія накіравала на фінальны агляд.

Варта падкрэсліць, што ўсе ўдзельнікі раённага агляду атрымалі ўзнагароды і дыпломы. У добрай падрыхтоўцы і арганізацыі раённага агляду безумоўная заслуга дырэктара Бельскага дома культуры мгр Сяргея Лукашука і інспектара ГП БГКТ на бельскі раён Анны Бжазоўскай. Шкада, што перапоўнены, хаця вялікі зал Бельскага дома культуры не змог памясціць усіх тых, хто хацеў паслухаць беларускую песню. Было б добра, каб з вопыту бельскіх арганізатараў конкурсу „Беларуская песня-86" скарысталі і іншыя аддзелы.

**В. Ласкевіч**



 




## КРЫВАДУШНАСЦЬ НАС ГУБІЦЬ

„Калі замнога, дык няздарава". Дзядзька Хлябіч напісаў ясна і трапна. Хачу прыпомніць яшчэ нашу прыказку: „Карова, якая многа раве; мала малака дае". Якраз з такой каровай можам параўнаць і некаторых нашых беларусаў — дзеячоў, якія на розных старонках „Нівы" крычаць, як ратаваць родную мову, беларускасць, нашу культуру і звычаі. А як яны самі гэтаму садзейнічаюць у жыцці, як у сваіх сем'ях гавораць?

Алесь Баркі піша, што беларусы маюць схільнасць да самазнішчэння. Гэта праўда. Мы бываем нізкія духам і адзін другога гатовы часта ўтапіць у лыжцы вады. Стараемся — кожны толькі для сябе, клапоцімся — кожны пра сваё багацце. Пануе імкненне да матэрыяльнага дабра. А іншы чалавек?

У школах амаль усюды настаўнікі гавораць паміж сабою выключна па-польску, нават калі ўсе да аднаго беларусы. Калі самі настаўнікі пагарджаюць роднай мовай, чаго можна чакаць ад іншых?.. Ведаю аднаго беларуса, які быў членам Галоўнага праўлення БГКТ, але куды б ён не зайшоў, ён да ўсіх звяртаўся па-польску, бо гэта „ўжэндова" мова. Пытанне толькі: навошта такія людзі ў ГП?

На заканчэнне хачу пахваліцца, што ў гміне ў нас у Дубічах Царкоўных усе працаўнікі гавораць па-беларуску і то здавендаўна. Таксама ёсць і ў нас у банку, у ГС, у асяродку здароўя, на пошце. Мы не ламаемся і шануем родную мову.

**М. Панфілюк**

## КОЖНАМУ ЧАГОСЬЦІ НЕ ХАПАЕ

Аб узаемных адносінах паміж мужчынамі і жанчынамі Аўрора піша многа. Але я хацеў бы пачытаць нешта адкрыўчае, арыгінальнае. А Аўрора піша ўсё аб адным; што мужчыны п'юць, б'юць сваіх жонак, а ў перапынках ляжаць жыватом уверх на вярсальцы ды чытаюць газеты. Бедныя жанчыны, акрамя працы ў бюро, школе, бальніцы, а на вёсцы ў полі, працуюць яшчэ як гаспадыні на кухні, вараць абеды сваім гультаям. З такой замалёўкі з жыцця ёсць толькі адзін вывад: маладая дзяўчына не павінна браць на сябе горб-мужчыну. Я таксама за тое, каб не брала на сябе. Як раўнапраўе — то раўнапраўе! Няхай Аўрора ўступіць у Лігу жанчын, піша даклады, ездзіць ад вёскі да вёскі, навучае мужчын непасрэдна.

Аўрора і так павінна быць задаволена, што жыве ў часах, калі можа свае погляды выказваць. Праз тысячы гадоў жанчына не выходзіла на першы план, а ці не была каханай? Была! Тое, што вяжа яе з мужчынам, каханне, — гэта сувязь панадчасовая. А калі Аўрора гэтага не можа зразумець? Што ж — кожнаму чагосьці там не хапае.

**Міхась Махвацкі**



Будынак Сямяцінкага ліцэя. Мал. Уладзіслава Петрука.




Дарагое Сэрцайка!

Здарылася страшнае. Мая адзіная, каханая, найдаражэйшая здрадзіла мне. І ўсё гэта можна было б яшчэ неяк перанесці, каб не тое, што адыйшла ад мяне, сказаўшы, што нікога ў жыцці так, як мяне, дагэтуль не кахала. А здрада — гэта была проста хвіліна слабасці, якой сёння вельмі шкадуе.

Праўду кажучы, я нічога нават не падазраваў. Мы ж з ёй разам былі ўжо амаль 2 гады. Планавалі супольную будучыню, не ўяўлялі сабе жыцця адзін без другога. Але я заўважыў у апошнія тыдні, што нешта яе мучыць. Думаў, што мо з яе маці кепска, бо ў яе хворае сэрца. Слова па слову, і Валя прызналася, што калі была ў сяброўкі на імянінах, сядзеў побач з ёю малады чарнявы хлопец. Прыгожы! Сама не ведае, як апынулася з ім у ложку. Вельмі шкадуе свайго ўчынку, а што горш — не дае ёй гэта спакою. Не можа цяпер жыць. працаваць. Мусіла сказаць аб гэтым мне: „Ачысцілася, як на споведзі!"

Дарагое Сэрцайка! Ці ты б не лопнула пасля ўсяго гэтага? Вось і я не вытрымаў. Адлупцаваў сваю наймілейшую як умеў. А яна нічога. Толькі і сказала: „Нікога так не кахала я, як цябе". І выйшла. Больш да мяне не прыйшла. На мае тэлефоны маці яе адказвае, што Валі няма дома. Калі я прыйшоў да іх, мне не адкрылі дзвярэй. На рабоце да яе няма доступу. Што мне рабіць? Мусіць, цяпер яна ўжо мяне знаць не захоча, а я ж, нягледзячы на ўсё, жыць без яе не магу...

**Няшчасны Грыша**

Грыша! Цяжка нават сказаць,

**(Працяг на стар. 11)**

## ІНФРАСТРУКТУРА ВЁСКІ

Аб цяжкай працы на вёсцы гавораць усе, бо ўсе дакладна ведаюць, што яна цяжкая і доўгая. Гэта праўда, што ёсць тут прасторы і камплектныя машыны. Праўдай з'яўляецца і тое, што пры змеханізаванай гаспадарцы дасягаюцца значна вышэйшыя ўраджаі. Аднак у адным і ў другім выпадку праца не абмяжоўваецца васьмігадзінным днём.

У гарачыню летняй уборкі ўраджаю і нядзелямі папрацаваць здараецца, нават гадавых царкоўных свят, бывае, не прыкмеціш. І не дзіва, што маладыя шукаюць лягчэйшага жыцця ў горадзе.

Пра гэта ўжо валовую скуру спісалі, а яшчэ больш сказалі і далей гавораць, што вёска старэе. Незалежна ад таго, сялянам прапануецца пабудову вясковай крамы, школы, святліцы ці рамонту дарогі, зразумела — грамадскім чынам.

У маіх Райках у мінулым годзе моладзь занялася рамонтам святліцы. Зараз улады гміны лічаць рамонт закончаным. А як яно прадстаўляецца ў сапраўднасці? У святліцы мела быць праведзена электрычнае аграванне — няма яго і праўдападобна не будзе. У вялікай зале ў акне спарахнеў касяк, зрабілася вялікая дзірка — яе заткнулі анучамі. Столяра ў вёсцы не аказалася і так яно і будзе.

У вёсцы штораз галасней гавораць людзі пра калгасы. Мо і добрая справа, я і сам ахвотна падпісаў бы дэкларацыю, хаця з мяне і карысць невялікая, як ужо паўстагоддзя пражыў і інвалідам трэцяй групы. У калгасе патрэбныя маладыя, здаровыя рукі кіраваць трактарамі, камбайнамі, даіць кароў і г.д. Такім аднак патрэбныя сучасныя кватэры, сучаснае абсталяванне і ўсё іншае. Чынам гэта не зробіцца.

**В. Семянюк**

## ПЕРСПЕКТЫВЫ НА ПЯЦІГОДКУ

Кожны з нас ставіць сабе нейкія мэты на бліжэйшую і далейшую будучыню. Далёкасяжныя перспектывы для ўсіх грамадзян Польскай Народнай Рэспублікі вызначае праграма Польскай аб'яднанай рабочай партыі, з якой яна ідзе на свой X з'езд.

У рамках гэтай праграмы, над якой цяпер дыскутуем, умяшчаюцца таксама і агульныя напрамкі грамадска-гаспадарчага развіцця Беластоцкага ваяводства ў гадах 1986-1990. Уступную ацэнку нашых перспектыў на гэтую пяцігодку зрабілі радныя ВРН у Беластоку на сваёй сесіі, якая адбылася 30 студзеня 1986 г.

Юльян Сляжынскі, намеснік беластоцкага ваяводы, рэкамендуючы радным ВРН гэты план, шчыра заявіў, што ўваходзім мы ў гэтую пяцігодку пры вострых абмежаваннях усіх элементаў вытворчасці. Перш за ўсё трэба спадзявацца памяншэння паставак вугалю і нафтапрадуктаў, недахопу электраэнергіі і газу, паглыблення тэхналагічнай няспраўнасці многіх абсталяванняў і машын на прадпрыемствах і заводах, якія былі там запушчаны пад канец сямідзесятых гадоў. Жыллёваму і прамысловаму будаўніцтву будзе спадарожнічаць востры дэфіцыт будаўнічай плошчы з падрыхтаваным ужо камунальным забеспячэннем. Маецца тут на ўвазе пастаўка вады, газу, цяпла і электраэнергіі.

Улічваючы ўсе гэтыя абмежаванні, можна сцвердзіць, што ў бліжэйшыя гады чакае нас скромны, але памяркоўны поступ наперад. Вось некаторыя яго важнейшыя паказчыкі.

**Насельніцтва і перспектывы на працу.** Насельніцтва Беластоцкага ваяводства на працягу пяцігодкі павялічыцца амаль на 25 тысяч чалавек і будзе нас тут 696 300 чалавек. Надалей павялічвацца будзе гарадское насельніцтва, колькасць жыхароў вёсак зменшыцца амаль на 15 тысяч. На кожную тысячу працаздольных будзе 782 пенсіянеры і вучні. Працоўная армія Беластоцкага ваяводства папоўніцца амаль на 10 тысяч рабочых і служачых.

**Прамысловасць.** Тэмп гадавога прыросту прададзенай прадукцыі на прамысловых прадпрыемствах Беласточчыны мае фармавацца на ўзроўні няцэлых 5 прац., што трэба лічыць вельмі ж памяркоўным прыростам ды яшчэ поўнасцю рэальным толькі тады, калі рабочыя калектывы і кіраўніцтвы прадпрыемстваў пачнуць ажыццяўляць строгі рэжым ашчаднасці ўсялякай сыравіны, а ў першую чаргу электраэнергіі і паліва, калі прыросту прадукцыі пачнуць яны дабівацца перш за ўсё за кошт павышэння рэнтабельнасці і прадукцыйнасці працы.

У асноўных напрамках прамысловага развіцця ваяводства не прадбачваюцца карэнныя перамены. Пераважаць будзе сельскагаспадарчая і спажывецкая прамысловасць. У Беластоку і Саколцы будуць пабудаваны новыя малочныя заводы. У Беластоку — **халадзільны** склад для захавання 1500 тон масла. У

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Мікола Маляўка

## РАЗУМНАЯ ВАРОНА

Казка

*У птушыным царстве*
*Дуб ад веку рос,*
*А на ім купчастым,*
*Жыў вясёлы дрозд.*
*Жыў нібы на дачы:*
*Цішыня, краса.*
*Ды аднойчы, бачыць,*
*Госць ідзе — ліса.*
*Кошык жоўты з лубу*
*Выпусціла з лап*
*І хвастом па дубе —*
*Ляп, ляп, ляп!*
*А сама грацыяна*
*Хітрая лісіца:*
*— З дуба, дрозд, скачы —*
*Буду дуб сячы!*
*— Як жа дзеці, хатка?*
*— Скінь адно дзіцятка*
*У кошык мой*
*На суп —*
*Цэлы будзе дуб.*

*Дрозд-бядак раздумваў,*
*Дрозд трываў пайдня,*
*Ды нарэшце з дуба*
*Скінуў птушаня.*
*Як лісу ўлагодзіць?*
*Смачны з мясам суп —*
*Кожны дзень прыходзіць*
*Секчы тоўсты дуб.*
*Дрозд не спіць на дачы,*
*Не пяе даўно.*
*Засталося, бачыць,*
*Птушаня адно.*
*Прыляцеў у клёны*
*Да вароны*
*Дрозд,*
*Расказаў, як мучыцца*
*Праз лісіны хвост.*
*Плача:*
*— Хто паможа? —*
*А варона вучыць:*
*— Дурань, цярпіш здзек,*
*Дрэва ссекчы можа*
*Толькі чалавек.*
*Спі спакойна, дрозд:*
*Не сякера — хвост!..*

*Дрозд запеў на дачы,*
*Выспаўся ў гняздзе.*

(Працяг на стар. 10)



Малыя гледачы на раённым аглядзе беларускай песні ў Беластоку.
Фота С. Грыняўінкага.

Аляксей Пысін

## Напрадвесні

**Напрадвесні,**
**Як пайшлі прагаліны,**
**Тры шпакоўні**
**У садзе мы паставілі.**
**Тры шпакоўні —**
**Домікі птушыныя**
**Над калінай,**
**Над малінай,**
**Над крушынаю.**

**І тры пары птушак**
**Пасяліліся.**
**Так спявалі,**
**Шчабяталі,**
**Весяліліся!**

**Летам на палі,**
**Лугі мурожныя**
**Паляцела зноўку**
**Птушка кожная.**

**Зноў прадвесне,**
**Зноў пайшлі прагаліны,**
**Сем шпакоўняў**
**Мы яшчэ паставілі.**
**Ручайкі бягуць**
**Журчаць,**
**Вітаюцца,**
**У свой мікрараён**
**Шпакі вяртаюцца.**



Пяцікласнікі з Пасынак. Фота настаўніка Г. Хрома.

## ВЯСЁЛЫ КУЛІГ

У школе падставовай у Барысаўцы ўвесь год нешта цікавае дзеецца. Наша дырэктар школы Аліна Грыгарук арганізуе часта сустрэчы настаўнікаў з бацькоўскім камітэтам. Многа дапамагае школе старшыня бацькоўскага камітэта Анна Врублеўская.

Неяк у лютым прыйшла яна ў школу і сказала:

— Як вы думаеце, можа запрапануем паехаць на куліг усім бацькам разам з дзецьмі?

Мне прапанова вельмі спадабалася. Бацькі нашых дзяцей — гэта дружныя, шчырыя, вельмі працавітыя і адданыя школе людзі.

Справы куліга абмеркавалі на бацькоўскім сходзе. Бацькі прынялі прапанову з радасцю. Арганізаваць куліг узяліся ўсе бацькі, ляснік Кастусь Янюк і ляснічы Мікалай Ластавецкі.

Куліг адбыўся 1 сакавіка. Надвор'е было цудоўнае: свяціла сонца, хоць крышку падаў і снег. У дванаццаць гадзін дзевяцёра санак, запханых да апошняга месца, вырушала на куліг. Спачатку крыху ехалі праз вёску. Жыхары Барысаўкі выйшлі на вуліцу, каб паглядзець на вясёлае катанне на санках. З вёскі вазакі павярнулі коней на палявую дарогу, што вяла ў Белавежскую пушчу. Перад вачыма ўдзельнікаў куліга адкрыўся від на бор і жвіроўню. Паўгадзіны ехалі лесам. Коні беглі хутка. На паваротах санкі адляталі далёка ў бакі, што ўсім вельмі падабалася. Вучні з бацькамі спявалі песні.

Нарэшце паляна і групка людзей на ёй. Тут ужо чакаюць нас ляснічы Мікалай Ластавецкі з жонкай Аняй, ляснік Кастусь Янюк і дрывасекі. Агульнае павітанне, а потым дырэктар школы Аліна Грыгарук распальвае вялізнае вогнішча. І тут жа рэха нясе па лесе гарцэрскую песню „Гарыць вогнішча". Пасля спявалі іншыя песні — польскія і беларускія. Пры вогнішчы мамы пастараліся, каб кожны з нас атрымаў гарачы бігос. Пасля пачастунку пайшлі гуляць на снезе. Настаўніцы Валя Дзмітрук і Ірына Гацута падрыхтавалі цікавыя гульні. Шмат было конкурсаў. За ўдзел усе атрымалі ўзнагароды. Затым елі печаныя на агні каўбаскі, цешыліся лесам, кампаніяй.

А пятнаццатай гадзіне, пасядаўшы назад у сані, рушылі дадому. Каля школы развіталіся з госцьмі з Гайнаўкі, якія ўдзельнічалі ў куліку, і тады ж вырашылі, што такі куліг варта паўтараць штогод.

**Андрэй Ялоза,**
**настаўнік з Барысаўкі.**

## ЗАГАДКА

Наведаю ўлетку
Я кожную кветку,
Збіраю нектар.
Ўсе любяць на свеце
Дарослыя й дзеці
Салодкі мой дар.

**У. Мацвеенка.**

З чаго смяюцца суседзі

# КАЖУХ

— Алё!.. Аддзел галоўнага тэхнолага? Васіль Пятровіч? Гэта Канцэдайла непакоіць. З надыходзячым святам!

— А, падарожнік! З прыездам. Ты калі з Цюмені?

— Учора ўвечары прыляцеў. Што на рабоце, якія навіны?

— У нас поўны парадак. Ёсць навіны: я вось ужо тыдзень на пенсіі. Праўда, пенсіянер працуючы. Радавым тэхнолагам пайшоў. А загадчыкам прызначылі Палавінкіна. Вось як. Слухай, Канцэдайла, а ты мой заказ выканаў?

— Які заказ?.. Я, праўду кажучы, забыўся.

— Кажух прывёз?

— А... Кажух? Кажуха вам не знайшоў, хаця ўсю Цюмень аблазіў. Кажуць, толькі ў трэцім квартале будуць. Так што даруйце, Васіль Пятровіч.

Канцэдайла хуценька паклаў трубку і ўзяўся званіць Палавінкіну.

— Міхаіл Фаміч, дарагі, прывітанне.

— Гэта ты, Канцэдайла. Прыбыў, нарэшце.

— Міхаіл Фаміч, перш за ўсё, віншую вас з пасадай. Як кажуць: „Гадоў да ста расці...“ У мяне, Міхаіл Фаміч, для вас прыемны сюрпрыз: я вам з Цюмені цудоўны кажух прывёз. Карычневы, з цыгейкавым каўняром, выдатна выраблены, сапраўдны дубль.

— Дзякуй, Коля, за клопат. Але ў мяне ёсць кажух, таксама карычневы.

— Тады сыну будзе. Для добрых людзей нічога не шкада...

**Барыс Рабенькі**



# НАВУКА



## АПТЫМІСТ

У час вясновай паводкі аптыміст сядзіць на даху сваёй хаты і спакойна глядзіць на ўзбураную стыхію. Неўзабаве да яго падплывае сусед і кажа:

— Эй, эй, усю чыста хатнюю птушку ў вас забрала вада.

— Глупства, дык жа гусі і качкі ўмеюць плаваць.

— І яблыні вось знявечыла.

— Не вялікая страта, сёлета яны слаба ўрадзілі.

— І вада вось ужо сягае вокан хаты.

— Цудоўна, іх даўно пара памыць.

## МУДРА ДЫК МУДРА...

Жонка да Кастуся:

— Што ты бурчыш?

— Дык вось зноў пераходзім на летні час...

— Ну то што? То ж мудра.

— Мудра дык мудра, але ж зноў трэба ўначы падымацца і перастаўляць стрэлкі гадзінніка.

## ПРЫЧЫНА

Прычынай нашага няшчасця з'яўляецца алкаголь, — гаворыць доктар.

— Чуеш? — азірнуўся пацыент на жонку. — Алкаголь! А ты ўвесь час сцвярджаеш, што гэта мая віна!

## ВЫХАВАНАСЦЬ

— Празмерная выхаванасць таксама да дабра не прыводзіць. Учора вадзіцель аўтобуса, у якім я ехаў, убачыў старую ў салоне старую бабулю і спрабаваў уступіць ёй сваё месца.



**Сумленне, якое яго грызла, выявілася бяззубым.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Камбайнёр звяртаецца да свайго памочніка:

— У правай фары перагарэла лямпа. Збегай на склад, папрасі новую.

Памочнік пайшоў. Праз нейкі час вярнуўся.

— Там сказалі, што лямпаў да правых фар няма, засталіся толькі для левых.

☆

Амерыканскі прадпрымальнік ідзе на адпачынак, маючы ў банку мільён долараў.

— Ці не маглі б вы адкрыць таямніцу свайго жыццёвага поспеху? — пытае ў яго журналіст.

— Чаму ж не? — адказвае прадпрымальнік. — Сваё багацце я набыў штодзённай працай на працягу трыццаці гадоў... А таксама дзякуючы свайму дзядзьку, які некалькі гадоў назад завяшчаў мне два мільёны долараў.

## МІНІВЕРШЫ

### ХВАЛЬКО

Ён на словах — бойкі, жвавы,
Языком усё гладка робіць.
Калі ж брацца трэ за справу —
Вечна рукі не даходзяць.

### ПАКАЗУХА

Калі найпершы клопат — справаздача,
Дык сама справа часта плача.

**Язэп Кудзеля**

З „Весніка Задрыпоніі“

## ЯШЧЭ АБ ЖАНЦЬБЕ

Група псіхолагаў з аматарскага гуртка пры жылкаапэратыве „Прыпнука“ пры дапамозе суседзяў і анкетавання ўстанавілі, што старых халасцякоў, якія ўпершыню вырашылі жаніцца, чакае бліскучая рэтраспектыва.

## АБ'ЯВА

Магазіну тэрмінова патрабуецца грузчык для работы пад прылаўкам.







— Калі гэта хуліган, скажы яму, што ў нас ёсць тысяча злотых. А калі гэта наш сын, скажы яму, што ў нас няма ні граша.

# Курёзы

## ТЫТУЛЫ НА ПРОДАЖ

Не так даўно сенсацыяй заходняга друку стала княжна Соф'я фон Габсбург, якая належыць да праслаўленага роду еўрапейскіх каралёў і манархаў. „Няўжо яна, гэты сучасны патомак Габсбургаў, недзе зноў узяла ўладу?“ — пыталі адзін у другога абывацелі. А хутка ўсім стала вядома: Соф'я фон Габсбург, наследніца каралеўскага дому, зрабілася не каралевай, а... манекеншчыцай! Самай звычайнай манекеншчыцай...

Як жа гэта здарылася? Можа, яна мае надта прыцягальную знешнасць, выключна стройную фігуру, прыгожы твар? Не, знешнасць у яе самая ардынарная, а вось княжацкі, ды такі старажытны тытул, шырока вядомы. Таму прадпрымальнікі-гандляры і ганяюцца за яе паслугамі ў мэтах рэкламы сваіх тавараў і нават простыя яе здымкі ў гэтай ролі ахвотна набываюць рэдакцыі многіх газет і часопісаў, асабліва амерыканскіх.

Праўда, далёка не ўсе чытачы паставіліся да гэткай выхадкі княжны фон Габсбург аднолькава. Многія з іх ацанілі гэта як абразу для праслаўленага каралеўскага дому, а большасць аднеслася абыякава: маўляў, а што тут асаблівага? Соф'я робіць свой бізнес, а на рынку бізнесу прадаецца ўсё, нават тытулы.



**Калі чалавек умее своечасова спыніцца — ён далёка зойдзе.**